Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

3—9 кастрычніка
1998 года
№ 66
(146)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 2000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

ЗАЎТРА — ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

## Пачатак біяграфіі



*Няцяжка ўявіць, з якім хваляваннем маладая настаўніца ў першы раз пераступае парог школы, дзе ёй давядзецца вучыць разумнаму, добраму, вечнаму. Для Святланы Фёдараўны Гапонік, выпускніцы Баранавіцкага педагагічнага каледжа, сёлетні год асаблівы. Менавіта ў гэтым верасні яна пачала працу ў Коланскай базавай школе. Сама Святлана Фёдараўна кажа, што на працу маладога педагога ўплываюць самыя розныя акалічнасці, сярод якіх вялікую ролю адыгрывае атмасфера ў калектыве. А яна ў гэтай школе цудоўная. Дык поспехаў Вам, Святлана Фёдараўна! Поспехаў, шчасця і здароўя ўсім вашым калегам!*

*НА ЗДЫМКУ: настаўніца пачатковых класаў Коланскай базавай школы С. Ф. Гапонік.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

## За што і як працуе сёння настаўнік

**Ім часта дораць кветкі: у канцы мая і жніўня, у пачатку верасня, кастрычніка, сакавіка. Гэта, безумоўна, плюс.**

**Але чамусьці яны хутка сівеюць, а ў вачах іх часта бачыш сум і прыгнечанасць. Звычайны савецкі і постсавецкі настаўнік. Пра яго аповяд сёння.**

### Самая слабая "фігура"

Калі параўноўваць ролю настаўніка ў сістэме народнай адукацыі з фігурамі на шахматнай дошцы, то настаўнік хутчэй за ўсё (даруйце!) пешка. І нават гэтае параўнанне не адлюстроўвае поўнай карціны, якую сёння ўяўляе школьная "дошка". Бо настаўнік заўсёды адчувае ціск "фігур" не толькі зверху (школьныя адміністратары, супрацоўнікі раённых ды гарадскіх аддзелаў адукацыі, шматлікія інспекцыі), але і знізу.

Вучні 90-х гадоў, моладзь, якая ўступае ў XXI стагоддзе, істотна адрозніваецца ад школьнікаў 70-х, 80-х гадоў, калі настаўнікі былі самі вучнямі. Акселерацыя дае аб сабе ведаць. Тым больш, сённяшнія вучні маюць (і добра ведаюць) канкрэтна акрэсленыя правы, яны могуць паскардзіцца на настаўніка завучу, дырэктару, напісаць куды-небудзь скаргу ці проста наладзіць байкот. У такім выпадку знайсці рычагі ўздзеяння на забастаўшых 25-35 вучняў немагчыма для любой камісіі. Прасцей — пакараць настаўніка. Тым больш, што гэта зусім не складана. Хтосьці ж павінен адказваць. І, напэўна, любы з нас можа прывесці прыклад масавага "дэмаршу" вучняў. Ім заўсёды пойдуць насустрач. Каб не парушаць вучэбны працэс і не "праславіцца" перад вышэйшым начальствам. Ну, а настаўніку прыйдзецца паступіцца прынцыпамі, выкручвацца з непрыемнага становішча і... пасля гэтага глядзець цэлы год вучням у вочы.

### І жнец, і швец, і на дудзе ігрэц...

Не вельмі зайздроснае становішча і ў школьнага кіраўніцтва. Сучасная школа — гэта не толькі асобна ўзяты вучэбны працэс, але і праблемы з абсталяваннем, харчаваннем, фінансаваннем установы. Дырэктар сёння выбівае будматэрыялы, рамантуе школу, вядзе справы з санстанцыяй, пажарнымі. Трэба абавязкова быць "сваім чалавекам" для кіраўніцтва прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, што знаходзяцца паблізу. Дырэктар адной сярэдняй школы раёна нядаўна з горкай іроніяй распавядаў аб тым, як ён два дні хадзіў "выбіваць" каня, каб узгараць школьны агарод.

Школьнае кіраўніцтва ў сучасных умовах і жнец, і швец, і на дудзе ігрэц. Варта толькі ўспомніць пра гарадскія школы ў трычатыры паверхі, дзе цякуць дахі, дзе бясконцыя праблемы з каналізацыяй. Велізарная адказнасць кладзецца на школьнае кіраўніцтва і за ўзровень выхавання дзяцей. Пападзецца сямікласнік на крадзяжы, разап'юць дзевяцікласнікі бутэльку ў кінатэатры, народзіць дзесяцікласніца дзіця — адказваць давядзецца, па заведзенцы савецкіх часоў, і бацькам, і, асабліва, школьнай адміністрацыі.

### Ці мае настаўнік сваё аўто?

Але настаўнікі не скардзяцца. Сацыяльны статус настаўніка такі, што нялёгка яму драць горла за сваё матэрыяльнае становішча. Так і цягнуць лямку гадамі.

Між тым, ёсць агульнапрынятая думка, асабліва ў вёсцы, што настаўнік сёння жыве прыпяваючы. Вонкава гэта так і выглядае. Сапраўды, калі вам давядзецца

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### Водгук расійскага крызісу

Да апошняга часу беларускія ўлады з гордасцю заяўлялі, што крызіс у Расіі ніяк не адаб'ецца на эканамічным стане нашай краіны. Але гэта былі толькі супакойваючыя заявы. Аб тым, што крызіс балюча адбіўся і на спажывецкім рынку, нядаўна афіцыйна прызналі і ў Івацэвічах на пасяджэнні райвыканкама, дзе абмяркоўвалася дзейнасць камбіната кааператыўнай прамысловасці і райкаапнарыхтпрама. Аднак простаму пакупніку і да гэтага было зразумела, што бяда ў суседзяў не абміне і яго. Пачалося з таго, што прыватнікам паўтара месяца не прадаюць бензін. Прыкметна пусцеюць гандлёвыя паліцы. Усё менш прадаюць мяса, сала, мукі, макаронных вырабаў, алею, цукру. Да гэтага трэба дадаць наспеўшую праблему з лякарствамі, якіх, па словах саміх фармацэўтаў, у рэспубліцы засталося толькі на 50 дзён, не гаворачы ўжо аб вельмі высокіх цэнах на іх.

БЯРОЗА

### Атэстаты прадавалі. І няволю атрымалі

У мінулы панядзелак Драгічынскі раённы суд вынес прыгавор былому намесніку старшыні Бярозаўскага райвыканкама Івану Лаўрыновічу і былому намесніку дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце СШ №1 г. Бярозы Рэгіне Куніцкай. Першы асуджаны да чатырох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці, другая — да пяці з канфіскацыяй маёмасці.

Пераканаўчыя доказы следства і паказанні шматлікіх сведкаў на судзе даказалі віну І. Лаўрыновіча, як былога загадчыка РАА, і Р. Куніцкай у тым, што яны бралі хабар за выдачу атэстатаў аб сярэдняй адукацыі з "палепшанымі" адзнакамі. Рэгіна Куніцкая атрымала большы тэрмін зняволення з-за таго, што, на думку суда, з'яўлялася ініцыятарам і пастаўшчыком кліентаў для набыцця фальшывых атэстатаў. Бацькі некаторых выпускнікоў, якія закончылі сярэднюю школу з няважнымі адзнакамі, звярталіся да завуча з адной просьбай: выдаць новы атэстат і, вядома, такі, каб у ім было больш выдатных адзнакаў. Р. Куніцкая ахвотна гэта рабіла, але за паслугу брала валютай, якой дзялілася з Іванам Лаўрыновічам. Сумы хабару былі розныя — ад 50 да 200 долараў. Па фальшывых атэстатах выпускнікі змаглі паступіць у дзяржаўныя і недзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Здзіўляе, вядома, тое, што маючы атэстаты з фальшывымі адзнакамі і не маючы адпаведных ведаў, гэтыя выпускнікі паспяхова здавалі ўступныя экзамены. Ці мо і ў ВНУ "апякалі" людзі накшталт Лаўрыновіча і Куніцкай?

Івану Лаўрыновічу ўвогуле прад'яўляліся абвінавачванні па шасці артыкулах Крымінальнага кодэкса РБ, аднак падчас судовага разбору па чатырох артыкулах абвінавачванні зняты. Яму інкрымінуецца хабарніцтва і незаконнае захоўванне зброі.

На міліцыянера, які забяспечыў падсуднага зброяй, заведзена таксама крымінальная справа, якая раённым судом з-за шматлікіх няясцасцей адпраўлена на дадатковае дасследаванне.

Асуджаныя маюць права падаць касацыйныя скаргі ў вышэйшую судовую інстанцыю.

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ИРИНА. По гороскопу — Рак. Из эстрадных певцов нравятся Элтон Джон и Дмитрий Маликов. Люблю кино как жанр искусства. Причём обожаю фильмы юности моих отцов "Джентльмены удачи", "Бриллиантовая рука" и другие кинокомедии. В людях ненавижу предательство. Считаю, что каждый из нас должен быть личностью.*

БАРАНАВІЧЫ

### На адзін храм болей

Ва ўсходнім мікрараёне горада вырас цікавы па архітэктурнаму выкананню будынак — сабор Свята-Аляксандра Неўскага.

Узвялі праваслаўны храм будаўнікі мясцовага трэста № 25. Асвяціў яго епіскап Пінскі і Лунінецкі Стэфаній. Вернікі хросным ходам ішлі па гораду ад старой Свята-Пакроўскай царквы да новага храма. На ўрачыстым богаслужэнні прысутнічала каля 5 тысяч чалавек.

### Небяспечная работа

Разам з беспрацоўем у Баранавічах існуе і праблема бяспекі працы. За першае паўгоддзе на прадпрыемствах горада адбылося 39 няшчасных выпадкаў, два з іх прывялі да гібелі. Увогуле бальнічныя лісты былі аформлены больш чым на тысячу дзён.

Занальная інспекцыя працы аштрафавала 39 службовых асоб і 28 наймальнікаў, якія не змаглі гарантаваць бяспечныя ўмовы працы для супрацоўнікаў.

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## На Домановском полигоне проводятся боевые стрельбы войск противовоздушной обороны Беларуси

*Тактическим учением с боевой стрельбой на российском полигоне Ашулук не завершилась полигонная практика специалистов Войск противовоздушной обороны (ПВО) Беларуси.*

По сообщению пресс-службы Министерства обороны республики, занятия продолжаются на Домановском полигоне, расположенном в районе Ивацевичей (Брестская область). После выполнения боевых пусков расчетами подразделений ПВО 120-й мотострелковой дивизии боевые стрельбы проводят офицерские расчеты частей и соединений Войск ПВО Беларуси. Они выполняют нормативы по боевой стрельбе из зенитных установок по маловысотным воздушным целям.

Позже теоретические знания и навыки, полученные в учебных классах и на тренажерах, предстоит подтвердить боевым расчетам ПВО трех армейских корпусов и мобильных сил.

## Профсоюз работников радиоэлектронной промышленности заявил о своей готовности призвать рабочих к массовым акциям протеста

*Один из крупнейших белорусских профсоюзов — работников радиоэлектронной отрасли — выступил с заявлением, в котором выразил категорическое несогласие с экономической политикой руководства страны.*

В заявлении отмечается, что, несмотря на заявления властей о правильности выбранного ими курса, реальная ситуация в радиоэлектронной отрасли и экономике страны в целом продолжает ухудшаться. Основной причиной этого, по мнению профсоюза, является "отсутствие последовательной государственной политики по выводу промышленности, в том числе радиоэлектронной, из глубокого экономического кризиса, а также отсутствие концепции реструктуризации наукоемкой промышленности". Кроме того, отрицательное влияние на экономическое положение предприятий и организаций отрасли оказывает наличие множественности курсов белорусского рубля по отношению к твердым валютам.

В связи с усилением негативных тенденций в экономике увеличился отток из радиоэлектронной промышленности высококвалифицированных кадров. Как сообщается в заявлении, за последние два с половиной года численность занятых в отрасли работников уменьшилась более чем на треть.

Руководство профсоюза предупреждает власти о своей готовности призвать людей к проведению массовых акций протеста в случае, если ситуация не изменится к лучшему.

## В Беларуси ожидается очередное повышение цен на нефтепродукты

*В ближайшее время в Беларуси будут повышены розничные цены на нефтепродукты. Об этом БелаПАН сообщил источник в государственном концерне "Белнефтехим". По его словам, соответствующие предложения находятся сейчас на рассмотрении в правительстве республики и в ближайшее время будут утверждены.*

Планируется, что цена на автобензин А-76 при реализации на автозаправочных станциях возрастет на 10 процентов, АИ-92 — на 15 процентов, АИ-95 и дизельное топливо — на 20 процентов. При этом оптовые цены на нефтепродукты для предприятий и хозяйств республики планируется оставить на прежнем уровне.

## Участники Международного конгресса "Экочел-98" выступили с предложением возвести Храм Мира

*В крымском городе Саки /Украина/ с 14 по 20 сентября проходил международный конгресс "Экология и очищение человека". В нем приняли участие 150 ученых и практиков, педагогов и целителей из России, Украины, Беларуси, Болгарии, Литвы и Кореи.*

На конгрессе рассматривались пути развития общепланетарной экологической этики, экологического образования, был представлен ряд программ физического и духовного оздоровления. Участники конгресса приняли обращение к главам государств, руководителям религиозных конфессий и духовных центров о необходимости строительства Храма Мира, призванного стать духовным центром планеты.

*(БелаПАН).*

ИЗ ИСТОРИИ УНИАТСКОЙ ЦЕРКВИ

# Мученический путь развития

**(Продолжение. Начало в №№ 62, 65).**

### Первые годы существования. Борьба с противниками

Положение Церкви на момент принятия Унии было таким, что католичество было религией панов, а православие — холопов. Дворяне могли выпороть православного священника на конюшне, заставить его отрабатывать барщину и т. д. И тут Уния начинает наводить порядки, требует уважения к духовенству, открытия школ для народа и вообще независимости Церкви от светских властей. Паны во главе с князем Острожским противятся Унии. Противниками Унии становятся подбиваемые Москвой и Константинополем запорожские казаки. Против Унии восстают православные монастыри и братства. Против Унии и польское католическое духовенство, **потому что Уния является препятствием к полонизации белорусского и украинского народов.** Одним словом, у Унии больше противников, чем заступников. Но свет Христа побеждает всех. Уния растет и набирает силу.

Счастливой юностью Унии стал период правления митрополита Ипатия Поцея, который был избран на престол после смерти Михаила Рогозы. Становление выпало на время митрополита Рутского, который создал внутреннюю организацию Церкви.

Между царством Московским и Речью Посполитой назревает война. Чтобы её избежать, под давлением Москвы и запорожских казаков король Сигизмунд III идёт на уступки православным. Но Ипатий Поцей решительно отстаивает права Унии. К нему подсылают наёмного убийцу, который нападает на митрополита с мечом и отсекает ему три пальца.

В Вильно образуется небольшой униатский Свято-Троицкий монастырь. В его стенах пересеклись пути трех выдающихся церковных деятелей Беларуси — Ипатия Поцея, Юзефа Рутского и Иосафата Кунцевича. Монастырь растет и становится "тесным". Часть монахов основывает монастырь в местечке Бытень. Обживается пустующий к тому времени Жировичский монастырь. Рассвет Жировичской обители приходится на время пребывания в ней униатских монахов. Тогда же произошло явление чудотворной иконы Божьей Матери Жировичской.

В 1617 г. в составе Униатской церкви насчитывалось 5 монастырей: в Вильно, Бытени, Жировичах, Минске и Новогрудке.

Росли монастыри, **росла Униатская церковь, в которой народ видел свою защиту от панских притеснителей.** Недаром тогда говорили, что за Унией — только "поп да холоп". Часть польского духовенства считала, что раз православные приняли главенство Римского Папы, то они должны принять и латинский обряд. Этим пользовались православные братства, постоянно выступали против Унии, что основной её целью является ополячивание православного населения. Это была явная ложь. **Возникновение Унии было обусловлено восстановлением, прежде всего, Евангельской заповеди о единстве Церкви. Во-вторых, средством как раз против латинизации и ополячивания.** Лживым агитаторам нередко верили, в Великом княжестве Литовском произошло не одно волнение. И всё-таки основная масса народа шла за Унией, ибо она способствовала не только религиозному возрождению, но поднимала достоинство человека в его собственных глазах и была его заступницей перед безграничной властью магнатов.

В 1618 г. скончался противник Унии князь Острожский. После его смерти роль защитников православия переходит к казакам. Опираясь на казаков, православные епископы занимают униатские церкви, требуют уничтожения Унии. Кровь униатских священников лилась по всей Южной и Западной Руси.

### Гибель святого Иосафата

Казалось, спасти Унию уже ничто не сможет, что наступают её последние дни. Но что невозможно для людей, возможно для Бога.

В октябре 1624 г. в Витебске принял мученическую смерть архиепископ Полоцкий св. Иософат Кунцевич. Назначенный на его кафедру Мелетий Смотрицкий ведет хитрую игру против Кунцевича, якобы последний собирается перевести всю свою епархию на латинский обряд. Обманутая Смотрицким толпа витебчан врывается в покои Иософата и зверски убивает его. Смерть униатского епископа потрясла не только простой народ, но и прямых участников его убийства.

В православной церкви распространяется версия, что Иософат был палачом белорусского народа, силой вводил Унию. Однако единственное "доказательство" в пользу этой версии — это сам факт смерти архиепископа: мол, раз убили, значит было за что. Однако подобным методом можно оправдать не только убийц многочисленных святых-мучеников, но и виновников распятия самого Господа нашего Иисуса Христа.

Православные братства надеялись, что со смертью Иософата умрет Уния. Но смерть св. Иософата укрепила дух униатов и повернула в сторону Унии бывших её противников. Так, Смотрицкий бежал в Константинополь, затем — еще подальше. Виновник смерти не спасся бегством. Осуждение Божие преследовало его. Смотрицкий принимает Унию и всю свою оставшуюся жизнь провел в покаянии в монастыре. Написал блестящий труд в защиту униатства.

Стихает межцерковная усобица. К концу XVIII века униаты, или **греко-католики, составляли на белорусских землях не менее трех четвертой населения. Униатство становится главенствующей религией на территории Великого княжества Литовского.**

*По материалам печати подготовила Н. ЧИКИТА.*

**(Продолжение следует).**

СКВОЗЬ ТЕРНИИ — В РЫНОК

# На мировом уровне

Барановичская обувная фабрика — единственная в Беларуси — уже десятки лет изготавливает женские модельные туфли и сапожки ручной работы, в которые, к слову, в былые времена обували наши женские делегации, едущие за границу. В канун перестройки решено было совместно с итальянцами построить новую фабрику за городом с тем, чтобы старую ликвидировать, но сохранить изготовление модной обуви ручным способом. Понятно: импортное оборудование, новейшая технология, объемы, цены и прочее при не менее 25% ручных операций, в основном отделочных.

До развала экономики корпус был построен, оборудование смонтировано. На этом и кончилось финансирование. Почти семь лет новая фабрика стояла законсервирована. Никто не решался взяться за её эксплуатацию в нынешних условиях нестабильной экономики. Наконец, согласился бывший директор мясокомбината Михаил Гордей. За год цехи ожили. Пошла первая продукция мирового уровня качества.

А сколько еще в Барановичах предприятий, лежащих "на лопатках" и сколько есть деловых людей, как Гордей, способных вывести их из прорыва. Так может еще и не пропадет наша промышленность, несмотря на странную политику власть предержащих на замораживание объектов, ограничение объемов выпуска продукции.

*П. НАГНИБЕДА.*

КОНКУРС "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"

## Падсумоўваючы мінулае

Дагарэла чыясьці зорка...
Не мая яшчэ, не мая.
Ці даўно на вяршыні ўзгорка
Палавіны жыцця стаяў.
Азіраўся назад, падлічваў,
Што, калі, дзе і як зрабіў.
Зразумеў: захапленне клічнік
Ставіць рана — не зарабіў.
Шмат памылак, агрэхаў, хібаў
Дапускаў — вінаваты час.
Прытвараўся нямою рыбай,
Калі трэба было крычаць.
Сам ніколі не браў чужога,
Ды не раз назіраў крадзеж.
Не схапіў за руку нікога,
Быццам і не ў той бок глядзеў.
Саслабелых душой не песціў,
Знахабнелых не дакараў.
Суцяшае адно: не бэсціў
Мову продкаў і родны край.

## Чакаць і верыць

Акно ў нябёсы адчыніў —
і жураўля свайго чакаю.
Не мітушуся, не гукаю
і не адпуджваю сініц.
Хрыстос цярплівасці вучыў
дзеля лагоды неўміручай.
Я — кемлівы, дасціпны вучань —
дзіўлюся пільна ўдалячынь.
За светлы міг жыцця плаціць
даводзіцца высокай мерай.
Не наракаць, чакаць і верыць —
і журавель мой прыляціць!

*Іван ЛАГВІНОВІЧ.*

*г. Баранавічы.*



# За што і як працуе сёння настаўнік

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

зайсці ў сельскі магазін, то сярод людзей у ботах і "куфайках" лёгка распазнаць настаўніка. Бо стараецца выглядзець чысцей, бо не брыдкасловіць, не сварыцца з бабамі, а стараецца быць больш далікатным. З гэтага чамусьці робяць вывад, што настаўнік так сябе вядзе ад сытасці, а не ад таго, што інакш яму проста нельга.

Пры гэтым ніхто не заўважае, што чыстыя штаны яго — апошнія, а плашч — ношаны-пераношаны. Што сёння амаль дзіва — сустрэць настаўніка за рулём іншамаркі. Хутчэй на веласіпедзе ці ўвогуле пяшком ходзіць сучасны настаўнік. І зусім не рэдкасць — сітуацыя, калі настаўніка падвозяць ягоныя вучні. Добра ўладкаваўшыся ў жыцці, знайшоўшы працу, дзе добра плацяць і дзе можна добра красці, гэтыя дзеці сучаснасці са здзіўленнем глядзяць на гэтых пасіўных дзівакоў, якія ўсё жыццё патрацілі на гэту нервовую, непрыбытковую працу, на дыктоўкі, мацерыкі, дзеясловы, сінусы і косінусы.

### Што шукаюць у школе інспектары?

Становішча паміж молатам і кавадлам — так можна назваць становішча настаўніка перад шматлікімі інспекцыямі, якія раз-пораз наведваюць школьныя ўстановы. Гэтым інспекцыям часцей за ўсё нецікава ўнутраная спецыфіка працы настаўніка, іх больш цікавіць адпаведнасць методыцы, дыдактыцы, іншым указанням вышэйстаячага кіраўніцтва.

Між тым, праца настаўніка, як і любая іншая , вымушае да імправізацыі. Бо клас на клас не прыходзіцца: ёсць такія моцныя класы, дзе настаўнік працуе з задавальненнем, а ёсць такія, дзе апусцяцца рукі ў самага заўзятага аптыміста. Настаўнік у такой сітуацыі павінен мець больш магчымасцей для манеўра, не баяцца, што за метадычныя адхіленні яго тут жа пакараюць. Увогуле, роля марыянеткі, калі розныя інстанцыі турзаюць за доўгія ніткі педагога, не можа не здзіўляць. Чаго так баяцца гэтыя інстанцыі? Няўжо настаўнік, калі яго не праверыць, сядзе з вучнямі "рэзаць" у карты або ўкрадзе са школы глобус?

Сам па сабе школьны калектыў — нібы асобная аўтаномная дзяржава, дзе ў кіраўніцтва ёсць розныя магчымасці або для матывацыі працы, або спынення згатыву.

А "інтэрвенцыі" розных інспекцый, рэвізій уносяць у наладжаны працэс навучання больш сумяціцы і бесталкоўшчыны, якая нікому на самой справе нявыгадна.

### Заробкі

Увогуле, з усяго кантынгента бюджэтных работнікаў заробак настаўніка, напэўна, самы празрысты. Сёння з цяжкасцю любы сярэднестатыстычны беларус вам скажа, які заробак у міліцыі, ваенных. А вось колькі зарабляюць настаўнікі ведаюць амаль усе.

Сярэдні заробак педагога за май, чэрвень мінулага навучальнага года складаў 3—4 мільёны рублёў. З першага кастрычніка заробак настаўніка павысіцца, але ўжо па тым, што аб гэтым павышэнні ўсе гавораць і многа, і даўно, можна зрабіць вывад, што істотным яно не будзе. Але нават калі і абстрагіравацца ад лічбаў, то кідаецца перш за ўсё ў вочы тое, што праца настаўніка зусім не задавальняе педагогаў-мужчын. Сёння яны з куды большым задавальненнем ідуць на працу ў тую ж міліцыю, паступаюць у ваенныя вучылішчы. Сярод гэтых спецыяльнасцей вылучаюцца цэлыя дынастыі.

Што не скажаш пра настаўнікаў. Рэдка які бацька-настаўнік параіць сыну ісці па ягоных слядах, на гэтую "хлебную" працу. Таму і мужчын у школах — адзінкі.

Заробак настаўніка ў вялікай ступені залежыць ад колькасці гадзін, што ён выкладае, ад нагрузкі, інакш кажучы. Размеркаванне нагрузак — даволі балючая тэма для педагога. Гэта тое самае становішча, калі і хочацца, і колецца.

Бо вялікая нагрузка — гэта не толькі больш доўгі рубель, але і перагружанасць, і стомленасць, і доўгія вечары за падрыхтоўкай да ўрокаў, за падручнікамі, сшыткамі. Пяць-шэсць падрад праведзеных урокаў гранічна выматваюць настаўніка. А трэба яшчэ сілы і час, каб падрыхтавацца да заўтрашніх урокаў, не кажучы пра дамашнія клопаты, праблемы. Неяк усе забываюць, што настаўнік — гэта яшчэ муж ці жонка, сын ці дачка, што ў настаўніка, акрамя дзяцей у школе, ёсць і свае дзеці...

*А. ГОРБАЧ.*

## ПЕДАГОГІКА

# "Гэта — мае дзеці. Я буду з імі да канца сваіх дзён..."

***1 лютага 1990 года дом Алены Васільеўны Пытляк з вёскі Халап'я атрымаў статус дзіцячага дома сямейнага тыпу. Яе сям'я папоўнілася — да сваіх чатырох дзяцей дабавілася яшчэ сем прыёмных.***

***З той пары мінула больш за восем гадоў. Цяпер Алена Васільеўна мае дзесяцёра дзяцей: Ваня (12 гадоў, пяцікласнік) Каця (13 гадоў, шасцікласніца), Іра (12 гадоў, сямікласніца), Аня (12 гадоў, сямікласніца), Анюта (14 гадоў, васьмікласніца), Дзіма (14 гадоў, васьмікласнік), Веранэка (14 гадоў, дзявяцікласніца), Дзяніс (17 гадоў, закончыў сярэднюю школу і стаў студэнтам эканамічнага факультэта Інстытута сучасных ведаў у Гродне), Арцём (23 гады, закончыў Віцебскую ветэрынарную акадэмію, служыць у арміі), Яраслаў (26 гадоў, машыніст газакампрэсарнай станцыі, жанаты, мае дачку, жыве асобна).***

За прайшоўшыя гады Алена Васільеўна была ў водпуску адзін раз — летам мінулага года. Адпачывала ў Бельгіі, у сям'і, якая некалькі гадоў запар запрашае да сябе дзяўчынак з дзіцячага дома сямейнага тыпу — Анюту і Вераніку.

— Ведаеце, я ніколі не звяртала і не звяртаю ўвагі на ацэнку маёй дзейнасці асобнымі "дабразычліўцамі", — гаворыць Алена Васільеўна. — Але ўсё ж не перастаю здзіўляцца нястомнасці аматараў перасудаў. Вось і мая паездка ў Бельгію, як і многае іншае, абсмоктвалася з зайздрасцю. А я пасля яе яшчэ больш абвострана адчула надзвычайнасць — не, не свайго! — становішча дзяцей. Скажу толькі адну лічбу: на харчаванне аднаго выхаванца дзіцячага дома дзяржава выдзяляе 62 тысячы рублёў на дзень. Пры існуючых цэнах трэба добра пакруціцца, каб дзеці былі накормлены, апрануты і абуты. Але, пакуль ёсць працаздольныя рукі, з матэрыяльнымі цяжкасцямі справімся. Горш пераносяцца маральныя траўмы...

Алена Васільеўна расказвае, як аднойчы прачытала ў "Івацэвіцкім весніку" артыкул аднаго карэспандэнта газеты, у якім ён расказваў пра дзяўчынку Марынку, якая трапіла ў Пружанскі дзіцячы дом сямейнага тыпу, але не прыжылася там. Выхавальніцу дзіцячага дома рабілі вінаватай у гэтым выпадку, падазравалі ва ўсіх грахах, у тым ліку карыслівасці.

— Я пайшла ў рэдакцыю "Івацэвіцкага весніка", — расказвае Алена Васільеўна, — пазваніла аўтару артыкула. Я гаварыла: не памыляецца і не церпіць паражэнняў толькі той, хто нічога не робіць. І толькі той, хто ўяўляе работу выхавальніка дзіцячага дома сямейнага тыпу па газетных артыкулах, можа западозрыць яго ў карыслівасці. У Пружанах здарылася так, што дзіцячы дом расфарміравалі. І падзея гэта стала бядой не толькі дзяцей, але і выхавальніцы, бо ў яе не хапіла ні фізічных, ні маральных сіл захаваць дзіцячы дом. Дык ці варта абсмоктваць гэты факт і вінаваціць каго б там ні было за падзею, якая і так нанесла маральную траўму і дарослым, і дзецям? Я гавару ўсё гэта не проста, каб абараніць выхавальніцу гэтага дзіцячага дома. Я сцвярджаю: і ў нашай справе выхавання ёсць і будуць паражэнні. Наш дзіцячы дом сямейнага тыпу ў свой час пакінуў хлопчык Саша. Як мы ні стараліся, агульнай мовы не знайшлі. Не дапамагла ні школа, ні міліцыя, куды я звярталася. І гэтае маё паражэнне да гэтай пары коле сэрца. І я ведаю цану "маралістам", якія добра пачасалі языкі, абсмоктваючы гэты факт. Перажыць бяду мне дапамаглі астатнія дзеці. Прыёмныя. Не, гэта — мае ўжо дзеці, і я буду з імі да канца сваіх дзён.



*Алена Васільеўна Пытляк з дзецьмі каля свайго дома.*

Сапраўды, у доме Алены Васільеўны ўжо ніхто не ўяўляе сябе па-за сям'ёй. Як і ў кожнай сям'і кожны дзень тут напоўнены працай, клопатамі, павагай і сардэчнасцю. І ў цэнтры гэтага жыцця, нясе яго галоўны цяжар — мама Лена. І можна здзіўляцца яе нястомнасці, бо пры такой рабоце і клопатах яна ўсё ж застаецца проста прыгожай жанчынай, разважлівым чалавекам, які мае свой, часам проста філасофскі погляд на ўсё, што адбываецца навокал. Напрыклад, як выхавальніцу дзіцячага дома, службовую ўсё ж асобу, яе абражае абыякавасць улада ў. У райаддзеле адукацыі ў гэтым годзе яе забылі павіншаваць са святам 8-га Сакавіка, не запрашаюць ні на якія нарады ці семінары.

— Ды Бог з імі, з гэтымі ўладуючымі, — махае рукою Алена Васільеўна. — Няўжо іх нарады ды семінары шчасце майму дзіцячаму дому забяспечаць? Дый ёсць усё ж людзі, якія пра нас памятаюць. Вось 28 мая гэтага года абласны Дзіцячы фонд святкаваў сваё дзесяцігоддзе. Мяне запрасілі ў Брэст і грамату ўручылі"... за шматгадовую плённую працу па сацыяльнай абароне дзяцінства, міласэрнасць і дабрыню". Як бы хто не перасудзіў мае словы, я шчаслівая сваімі дзецьмі. Мы маем добры дом, мірнае неба над галавой. Гэта — ой, як многа!

*Л. ЦАЛУЙКА.*



*Ваня (злева) і Дзіма (справа) са старэйшым братам Яраславам на агародзе.*



*Вераніка (злева), Анюта і Іра (справа) за швейнай машынкай.* *Фота А. ГАНЧУКА.*

*Чалавек захварэў, стаў інвалідам першай групы. Яго пастаяннае месца то ложак, то інвалідная каляска. І так з дня ў дзень, з месяца ў месяц.*

*Віктар Фёдаравіч Міхінкевіч — адзін з такіх інвалідаў. Яшчэ нядаўна быў здаровым, дужым. І раптам... І сам не чакаў, што каварная хвароба пазбавіць яго сапраўднай радасці жыцця.*

*Што ж, чалавечы лёс непрадказальны. І сёння ва ўмовах абмежаванай рухомасці Віктар Фёдаравіч не апусціў рукі. У яго выдатная памяць і цвярозы розум. З ахвотай і задавальненнем ён гутарыць з кожным, хто завітае ў яго кватэру па вуліцы Матросава ў г. Івацэвічы.*

*Нашага карэспандэнта Віктар Фёдаравіч сустрэў у сваім пакоі, у інваліднай калясцы, у добрым настроі. І распачалася размова.*



*Віктар Фёдаравіч Міхінкевіч у час службы ў арміі (фота зроблена ў 1948 годзе).*

● КОЛА ДУМАК

# "Як хочацца яшчэ пажыць..."

**— Прабачце, Віктар Фёдаравіч, за нечаканае парушэнне Вашага спакою і скажыце, калі ласка, колькі слоў пра сябе, пра сваю сям'ю...**

— Нічога вы не парушылі. Наадварот, я вельмі ўдзячны вам, што зазірнулі да мяне, не прамінулі кватэру інваліда. Як быў здаровы, то і сяброў хапала. Прыходзілі і звярталіся многія, а як захварэў, то забыліся, што жывы яшчэ.

Што ж сказаць пра сябе? Вось ужо амаль 12 гадоў як інвалід. Жывём у кватэры ўдваіх — я і жонка. Мая Кацярына Захараўна — найпершы памочнік. Без яе — я нішто. Тое, што я яшчэ жыву, цалкам абавязаны сваёй вернай спадарожніцы. Выгадавалі з ёй трое дзяцей. Дачка Люба жыве ў Брэсце, сын Віктар — у Маскве, Валерый — у Івацэвічах. Усе маюць свае сем'і. І дзеці, і ўнукі часта бываюць у мяне. Не забываюць, дапамагаюць, чым могуць. Грэх скардзіцца, падтрымку ад сваіх заўсёды адчуваю.

**— А ў гадзіны адзіноцтва, калі і не спіцца, і не дрэмлецца, і тэлевізар неахвота глядзець, ці не вяртаецеся Вы, Віктар Фёдаравіч, хаця б у думках у сваю маладосць?**

— Абавязкова. І не аднойчы. Сядзіш — думаеш, ляжыш — думаеш. Застаецца толькі ўспамінаць, жыць мінулым, бо сённяшняе жыццё, сказаць па праўдзе, не вельмі радуе. І не толькі мяне аднаго. Усё ж тыя ўспаміны часам вярэдзяць душу. Асабліва памятная вайна. Тады мы жылі ў Гічыцах. У бацькоў была вялікая сям'я. Мне споўнілася толькі 15 гадоў, але я ўжо ўсё ўмеў рабіць па гаспадарцы. Праз колькі дзён я ўбачыў немцаў. А калі ля Яглевіч яны расстралялі групу мясцовых актывістаў, то я цвёрда рашыў, што буду ў радах народных мсціўцаў.

**— І як Ваша жаданне спраўдзілася, Віктар Фёдаравіч!**

— Ведаеце, адразу ўключыўся ў падпольную работу. Бацька працаваў у Івацэвічах, я насіў яму абеды. І вось мне даручалі перадаваць розныя звесткі. Праз чыгунку прайсці ў горадзе не кожнаму ўдавалася, а я праходзіў. Наш сваяк па заданні падпольшчыкаў служыў у нямецкай паліцыі. Ён і дапамагаў мне прабірацца да сваіх.

**— Як доўга працягвалася Ваша падпольная работа?**

— Да кастрычніка 1943 года. Менавіта ў гэтым месяцы набіралі маладых мужчын у спецатрад "Баявы" імя Дунаева. Так я стаў бранябойшчыкам першага ўзвода першага аддзялення першай роты. У гэтым атрадзе я знаходзіўся да вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**— Чым жа, Віктар Фёдаравіч, запомнілася Вам партызанка?**

— Наш атрад быў увесь час у руху. Удзельнічалі ў розных баявых аперацыях. Захавалася і характарыстыка тых гадоў. Вось пазнаёмцеся.

**— Дзякую, Віктар Фёдаравіч. З цікавасцю прачытаю: "У атрадзе т. Міхінкевіч паказаў сябе дысцыплінаваным, ініцыятыўным, сціплым, добрасумленна адносіўся да сваіх абавязкаў. Актыўна ўдзельнічаў: 1. У баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у выніку чаго забіта 502 салдаты і афіцэры праціўніка. 2. У падрыве двух эшалонаў ворага. Як вынік, знішчана два паравозы, 42 вагоны з ваенным грузам і жывой сілай... Загінула 86 і паранена 12 салдат і афіцэраў праціўніка. 3. У знішчэнні дзвюх машын ворага, трох маслазаводаў, чатырох мастоў. 4. У разгроме двух нямецкіх гарнізонаў, у рэйкавай вайне..." Значыць, ёсць што ўспомніць, Віктар Фёдаравіч. А барацьба без крыві абыйшлася!**

— Была, даражэнькі, на маіх вачах і кроў, і смерць. Першы раз параніла на пераправе цераз Нёман, а другі раз пад Кёнінгсбергам. Раненні былі не цяжкія. Я быў малады, вынослівы, таму хутка зноў станавіўся ў строй і барацьба працягвалася.

**— Пасля партызанкі для Вас, Віктар Фёдаравіч, вайна, відаць, не закончылася!**

— Вайна для мяне працягвалася ўжо ў рэгулярнай арміі. Дзень Перамогі я сустрэў у г. Ліда.

**— А ў водпуск да бацькоў пасля вайны Вы, як малады салдат з узнагародамі на гімнасцёрцы, прыязджалі не раз. Ці не так!**

— Прыязджаў. Быў малады і хацелася пахазаць сваім сапраўдную выпраўку. Што ж тычыцца ўзнагарод, то самыя дарагія з іх салдацкія — медалі "За адвагу" і "За баявыя заслугі". А самая памятная — апошняя ўзнагарода "Медаль Георгія Жукава".

Яшчэ да 1956 года працягваў службу ў войску. І, па праўдзе сказаць, нада-



*Віктар Фёдаравіч Міхінкевіч з жонкай Кацярынай Захараўнай.*

кучыла трывожнае армейскае жыццё, і я падаўся на радзіму, да бацькоў.

**— Калі можна, Віктар Фёдаравіч, скажыце колькі слоў пра самае адметнае ў Вашым мірным пасляваенным жыцці.**

— Звыш сарака гадоў я жыву, можна сказаць, дома. Усё жыццё тут прайшло як адно імгненне. Сям'я, праца, вучоба. Штодзённыя клопаты і клопаты. Але ў гэтай жыццёвай мітусні я знайшоў час, каб закончыць вячэрнюю школу, паступіць і закончыць завочна Мінскі электратэхнікум сувязі. Доўгі час працаваў начальнікам Баранавіцкага лінейна-тэхнічнага ўчастка сувязі.

**— Калі падвесці вынікі, скажыце, калі ласка, Віктар Фёдаравіч, як усё ж жывецца зараз інваліду?**

— Сказаць па праўдзе, цяжка жывецца. Па-першае, маральна вельмі складана. Удваіх у чатырох сценах. Хаця я сам сябе стараюся супакойваць, падбадзёрваць, ствараць лепшы настрой.

Па-другое, матэрыяльнае забеспячэнне зусім недастатковае. Многа грошай прыходзіцца аддаваць на лякарствы. Яны ж такія дарагія, што страшна. Вы можаце сказаць, што інвалідам ёсць ільготы. Так, яны ёсць. І рэцэпты выпісваюць. Але ж у аптэцы тых лякарстваў часта няма. Прыходзіцца ў камерцыйнай аптэцы браць, бо выхаду няма. Дзеці, што ў другіх гарадах, таксама купляюць.

Я прыкідваў ужо, што маёй пенсіі хапае толькі на паўмесяца. А за што жыць яшчэ два тыдні? Ніхто аб гэтым не думае і не дбае. Гляджу беларускае тэлебачанне, слухаю радыё, а там толькі пра поспехі, што, маўляў, сталі жыць значна лепш, эканоміка пайшла ўгору. А жыць становіцца цяжэй. Па-мойму, штосьці не тое робіцца ў нашай Беларусі. Але нягледзячы ні на што, як хочацца яшчэ пажыць. Мне ж толькі ў чэрвені стукнула 72. Здаецца і не жыў. А вось хутка і фініш. Проста не верыцца. Але ж пра гэта стараюся не думаць.

**— І я далучаюся да Вашай думкі, Віктар Фёдаравіч. Не падайце духам, жывіце яшчэ доўга на радасць дзецям і ўнукам.**

— Вялікі дзякуй за добрыя словы і пажаданні. Я веру, што ў хуткім часе ваша газета стане самай папулярнай і масавай у раёне. Поспехаў вам і творчых удач.

*Гутарыў С. КАЖАДУБ.*

● ПАДПІСКА—98

# "Газета для вас" з вамі!

Шаноўныя чытачы! Сябры даўнія і тыя, хто ўліўся ў нашу сям'ю ў апошні час, хто толькі што звярнуў увагу на наша выданне!

Паведамляем, што падпіска на апошні квартал 1998 года закончылася. Калі вы спазніліся, справу можна папраўць, падпісаўшыся на нашу газету на лістапад і снежань. Вас чакаюць у аддзяленнях сувязі Івацэвіцкага, Баранавіцкага і Бярозаўскага раёнаў. Дапамогуць аформіць падпіску і паштальёны.

Кошт падпіскі ранейшы: на месяц — 10 тысяч, на два месяцы — 20 тысяч рублёў.

**НАШ ІНДЭКС 63834.**

## СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ



*Дорогая наша Леночка ШЛЯЖКО из д. Рудня! Прими наши наилучшие пожелания в день твоего 17-летия.*

*Желаем, чтоб счастье тебе улыбалось,*
*Чтоб жизнь проходила легко,*
*Чтоб только хорошее в жизни встречалось,*
*Плохое ушло далеко.*

*С любовью — папа, мама, братья, Оксана.*





*Уважаемую Нину Владимировну ЕВТУХ из д. Гощево сердечно поздравляем с днем рождения. Счастья тебе, здоровья, удачи, благополучия, задора и оптимизма, уверенности в завтрашнем дне, а также испытать все радости жизни.*

*Пожелаем, чтоб жизнь не бросала,*
*Чтоб легко было в жизни идти.*
*Много счастья, здоровья желаем,*
*Много радости, смеха, любви.*
*Доброты, красоты пожелаем,*
*Исполненья заветной мечты.*
*Век живи, век твори, не стесняйся*
*Глупых фраз и завистливых слов.*
*Помни: жизнь — это вечная тайна:*
*Нежность, ласка, забота, любовь!*

*Твои друзья.*





*Нашего друга Бориса Николаевича ДАШЕВИЧА из д. Серадово от всей души поздравляем с днем рождения. Желаем крепкого здоровья, счастья, радости, чистой и верной любви.*

*Будь самым внимательным, самым любимым,*
*Простым, обаятельным, неповторимым,*
*И добрым, и строгим, и слабым, и сильным...*
*Пусть беды с дороги уходят в бессильи.*
*Будь добрым, здоровым, счастливым весь век,*
*Наш милый, любимый, родной человек.*

*Твои друзья.*





*Уважаемая Юлия Поликарповна ЧИЖ из г. Ивацевичи! Накануне твоего дня рождения прими мои пожелания добра, радости, семейного благополучия. Будь всегда здоровой и жизнелюбивой.*

*Пусть годы не убавят красоту,*
*Когда коснется ниточка седая,*
*Всё сохрани: душевность, доброту,*
*И оставайся сердцем молодая.*
*Года — не всегда лихое время,*
*Жизнь-плутовка тем и хороша.*
*Над душой не властно даже время,*
*Если настоящая душа.*

*Подруга АННА.*





*От всей души поздравляем с днём рождения Веру Петровну ХОВАНСКУЮ из д. Яглевичи. Желаем крепкого здоровья, счастья, удачи во всех делах, успехов, добра и долгих-долгих лет жизни.*

*Любимая наша, родная,*
*Все годы для нас ты жила.*
*Да видно судьба уж такая —*
*Иначе прожить не могла.*
*Всё было: и радость, и слёзы*
*Росинкой в усталых глазах,*
*И были такие "морозы",*
*Что иней осел в волосах.*
*Здоровья тебе, дорогая,*
*Пусть беды твой дом обойдут,*
*Для нас ты всегда молодая,*
*Хоть годы идут и идут.*

*Муж, сын, дочь, невестка, внук.*





*Тепло и сердечно поздравляем с днем рождения Надежду Михайловну САУТИНУ из д. Речки. Желаем крепкого здоровья, успехов во всех делах, семейного благополучия.*

*Сегодня праздник у тебя в глазах,*
*А на лице — улыбка и волненье.*
*Ты вправе этот день своим назвать.*
*Ведь это дата твоего рожденья.*
*Так пусть же счастье,*
*словно солнца луч,*
*Дорогу твоей жизни освещает*
*И все преграды на твоём пути*
*В аллею тополей*
*пусть превращает!*
*Пусть все цветы*
*к ногам твоим падут,*
*Пусть бриллианты*
*в звезды превратятся*
*И радость, счастье*
*пусть тебя найдут,*
*И все твои мечты пускай свершатся.*

*КОПЫТИЧИ.*



